

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 26 (1385) 27 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

## Глеб Лабадзенка стаў лаўрэатам прэміі імя Васіля Быкава







**П**рэміяй імя Васіля Быкава "За свабоду думкі" ўганараваны стваральнік курсаў "Мова Нанова" Глеб Лабадзенка. Прэмія па традыцыі ўручаецца на радзіме пісьменніка, каля дома-музея ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна.

**- Л**абадзенка зрабіў вялікі ўнёсак у справе захавання памяці пра вядомых беларускіх дзеячоў. Можна ўспомніць Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, якіх ён падтрымліваў і пры іх жыцці. Ён працягвае рабіць шмат у сферы беларускай гісторыі і культуры. Як прыклад можна прывесці адкрыццё помніка Тадэвушу Касцюшку. У тое, што такі помнік з`явіцца на беларускай зямлі, мала хто верыў, - сказаў у каментары БелаПАН старшыня руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч. Паводле яго слоў, дзейнасць Лабадзенкі "можна ацаніць як дзейнасць цэлага Міністэрства культуры, ён робіць тое, чаго, на жаль, не робіць беларуская дзяржава".

**Я**к кажа Глеб Лабадзенка, гэта першая ўзнагарода ў яго жыцці, якую ён з вялікім гонарам павесіць на сценку і паставіць у пачэсным месцы.

**- К**анешне, прыемна. Асабліва прыемна, што пераможцу вызначаюць лаўрэаты мінулых гадоў - гэта ўсе вельмі шанаваныя людзі, узорныя для мяне людзі, на якіх можна раўняцца. І, канешне, гэта вялікі гонар атрымаць прэмію імя аднаго з найслыннейшых беларусаў - Васіля Быкава.

**П**рэмія імя Васіля Быкава "За свабоду думкі" ўручаецца выдатным беларусам, якія праявілі сябе ў грамадскай ці творчай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны. Лаўрэатамі ў розны час становіліся паэты Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, пісьменнік Уладзімір Арлоў, краязнаўцы Алесь Белакоз і Ада Райчонак, мастакі Алесь Пушкін і Алесь Марачкін, літаратары і палітыкі Уладзімір Някляеў і Павел Севярынец, музыкі і выканаўцы Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч і Віктар Шалкевіч, рэжысёр Валеры Мазынскі, грамадскі дзеяч Зміцер Дашкевіч.

**Н**а імпрэзе па ўшанаванні памяці Васіля Быкава выступілі сябры Віцебскай абласной арганізацыі "Таварыства беларускай мовы", вядомыя паэты, літаратары, мастакі ды іншыя. Упершыню выступіў і стваральнік статуэткі прэміі "За свабоду думкі", скульптар Віктар Копач. У якасці музыкі быў запрошаны Аляксандр Памідораў.

**С**ам Глеб Лабадзенка прыехаў з падарункам - мемарыяльнай шыльдай, каб паставіць яе на месцы, дзе была хата, у якой нарадзіўся Васіль Быкаў.

***Тацяна Смоткіна,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*
*Фота аўтаркі.*

ISSN 2073-7033

## 215 гадоў з дня нараджэння Рафала Слізеня



**Рафал Ратша СЛІЗЕНЬ** (27 чэрвеня 1803, м. Бартнікі Навагрудскага павета Гарадзенскай губерні, цяпер Баранавіцкі раён - 20 траўня 1881) - беларускі скульптар, жывапісец, медальер, архітэктар.

Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і Яна і Анелі Слізняў. Пачатковую адукацыю атрымаў у базыльянскай школе ў мястэчку Вольна (Навагрудскі павет), потым у езуіцкай школе ў Полацку. У 1820 паступіў на факультэт права Віленскага ўніверсітэта, адначасова наведваў Віленскую мастацкую школу, вучыўся ў Я. Рустэма і К. Ельскага. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1826 -1829 гадах працаваў у Міністэрстве замежных спраў у Пецярбургу. Пасля 1830 г. вярнуўся на радзіму, у свой маёнтак Вольна, дзе сабраў багатую мастацкую калекцыю.

У Вольне стварыў некалькі дзесяткаў жывапісных і скульптурных партрэтаў сваіх родных, знаёмых, суседзяў, якія вызначаюцца тонкасцю і глыбінёй індывідуальных характарыстык (партрэты Марылі, Францішкі і Міхала Верашчакаў). Выканаў 57 медальёнаў, у т.л. сваіх бацькоў Яна і Анелі Слізняў, прысвечаныя іх залатому вяселлю, а таксама Уладзіслава, Люцыяна, Браніслава Слізняў, барэльефы і медальёны Т. Зана, Я. Чачота, А. Э. Адынца, А. Міцкевіча, М. Ромера, К. і Я. Тышкевічаў, А. Храптовіча, Г. Ржавускага і інш., у пластычнай трактоўцы якіх адчуваецца смелае выкарыстанне традыцый класіцызму і рамантызму. Стварыў бюсты А. Міцкевіча, Я. Астроўскага і М. Антакольскага.

Паводле яго праектаў пабудавана некалькі палацаў і гаспадарчых пабудоў.

Рафал быў у шлюбе з Камілай з багатага роду Тышкевічаў, яны мелі чатырох сыноў і дзвюх дачок. Маёнтак Вольна перайшоў па спадчыне малодшаму сыну Генрыху, які ажаніўся з Нінай Маўрас, дачкой асабістага ад'ютанта генерала Мураўёва, гарачай прыхільніцай і патрыёткай нацыянальнага адраджэння.

***Вікіпедыя.***

## Выйшаў "Верасень" № 18




**В**ыйшаў з друку чарговы, васямнаццаты па ліку, нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Верасень". Паэзія ў часопісе прадстаўлена вершамі Яніны Пінчук, Яніны Асіпцовай, Марыі Магдалены Палхоўскай, Уладзіміра Круміна, Алеся Мацулевіча і Анатоля Брусевіча. Друкуецца таксама ўрывак з паэмы "Бацька" Васіля Дэбіша.

**Р**аздзел "Проза" складаюць апавяданні Ульяны Зяткінай, Алеся Яшчанкі, Міколы Адама, Вячаслава Лапціка і Вінцэся Мудрова.

**У** раздзеле "Пераклады" друкуецца апавяданне сучаснай кітайскай пісьменніцы Цань Сюэ ў перакладзе на беларускую мову Алены Сцяпашкінай.

**Р**аздзел "Крытыка" адкрывае інтрыгуючае эсэ Васіля Дранько-Майсюка, прысвечанае Янку Маўру. Шматгранную творчую і выдавецкую дзейнасць Уладзіміра Сіўчыкава ў сваёй гутарцы з ім асвятляе Кацярына Шчасная. Новымі запісамі з нізкі "Эцюды і крэскі" дзеліцца Васіль Зуёнак. Друкуецца ўрывак з "Віленская дзённіка" Раісы Крывальцэвіч. Адказ на пытанне "Чаго баяцца ўдзельнікі гурта "Тутэйшыя?" - у гутарцы Эдуарда Акуліна з кіраўніком калектыва Тацянай Казановіч. Успамінамі аб "Чортавым балоце" вяртаецца ў гады дзяцінства Лявон Валасюк. Спробу "Прымірыць Візантыю з Рымам" робіць у сваім гістарычным нарысе Леанід Дранько-Майсюк. Узаемінам Янкі Купалы і беларускай эміграцыі XX стагоддзя прысвечаны артыкул Сяргея Чыгрына. У чарговы раз пра нашумелы раман Людмілы Шчэрбы "Урб@н.М: адзін дзень не майго жыцця" разважае ў сваёй рэцэнзіі Яна Будовіч. З рэцэнзіяй на дэбютную кнігу Аліны Длатоўскай "Ген зямлі" выступае Эдуард Дубянецкі. Гіпотэзай аб тым, што "анекдот ёсць індыкатарам нашага жыцця", дзеліцца з чытачамі пасля прачытання кнігі Сяргея Шапрана крытык Анатоль Трафімчык.

**М**астацкае афармленне нумара падрыхтавалі Дар'я Бунеева і Валерыя Праслава. Ілюстрацыі - Лізаветы Ганчаровай.

**П**ытайце "Верасень" № 18 на сядзібе ТБМ (Румянцава,13). Чытайце "Верасень" на сайтах: Kamunikat.org і tbm-mova.by. Дасылайце свае творы ў "Верасень" на адрас: verasenchas@gmail.com

# Крылы над воблакамі

**20** чэрвеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння народнага мастака Беларусі Гаўрыіла Харытонавіча Вашчанкі. Ён запомніўся ў апошнія гады сівавалосым старцам з блакітнымі вачыма і спакойнымі, павольнымі рухамі. Да апошніх тыдняў ён працаваў у сваёй вялікай майстэрні на вуліцы Сурганава, дзе было шмат святла і паветра, і слухаў класічную музыку.



*Рыгор Сітніца*

**21** чэрвеня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстава "Зямля пад белымі крыламі", прысвечаная памяці народнага мастака. Яе арганізаваў сын творцы, графік і дызайнер Канстанцін Вашчанка.

- Ведаючы творчасць гэтага чалавека і з'яўляючыся яе малітоўным прыхільнікам, я разумею, што нам яшчэ доўга адкрываць яго глыбіню, - сказаў старшыня Саюза беларускіх мастакоў Рыгор Сітніца. - Ён быў фенаменальна адораным жывапісцам. Кожны яго эскіз з'яўляецца самадастатковай працай. Гаўрыіл Вашчанка стаіць у шэрагу геніяў беларускай нацыі. Тыя, хто памятае яго аблічча ў старасці, ведаюць, што гэта біблейскі вобраз. Яго біблейская сутнасць з кожным годам паглыблялася. Кожнае новае пакаленне павінна адкрываць яго асобу для сябе. Мы працуем над тым, каб у Гомелі паставіць бюст Гаўрыіла Вашчанкі перад яго галерэяй. Гэта трэба зрабіць дзеля Бацькаўшчыны і для гісторыі.

Гаўрыіл Вашчанка праявіў сябе майстрам манументальнага мастацтва, станкавага жывапісу, акварэлі. Яго роспісы назаўсёды застануцца ў Светлагорску ў Палацы хімікаў, у Менску ў Нацыянальным аэрапорце "Мінск-2", а вітражы ўпрыгожваюць касцёл святых Сымона і Алены. Ён прысвяціў 38 гадоў выкладчыцкай дзейнасці і, працуючы на кафедры манументальнага мастацтва, выпусціў са сцен акадэміі больш за 200 студэнтаў.

Ураджэнец вёскі Чыкалавічы паблізу Брагіна, ён усё жыццё імкнуўся перадаць унікальнасць этнасу, фальклору і мастацтва гэтага рэгіёну, выразіць у фарбах таямнічую экзотыку прыроды краю. Ён прысвячаў карціны родным людзям, якія акружалі яго з дзяцінства. Старая жанчына ў намітцы, што сядзіць на прызбе хаты, асвечаная промнямі залатога святла - яго бабуля Сынклета, якая пражыла 119 гадоў. Партрэт маці іканаграфічны, на ім водбліск папялішча, трывога разам з надзеяй.

Сваёй малой радзіме майстра прысвяціў палотны: "Палессе", "Па-над Прыпяццю". У дзяцінстве пабачыўшы свет з вышыні калакольні, мастак любіў пісаць краявіды з птушынага палёту, і такімі атрымаліся "Навагрудак", "Сынкавічы", "Раўбічы". Яго ўлюбёнымі птушкамі былі буслы. У кампазіцыі карціны "Матчыны крылы" закладзены танец буслоў над гняздом.



Яму выдатна ўдавалася перадаць настрой прыроды, блакіт неба, пах чаромхі, слодыч вясновага вечара, ззянне месяца ў карцінах "Чаромхавы час", "Святочны блакіт", "Бурштынавы вечар", "Дзявятая вясна", "Маладзіком свяцілася возера".

Мастак шмат часу разважаў над гістарычнымі тэмамі, ствараючы вобразы Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага, Янкі Купалы. На адным з партрэтаў узвышаецца статная постаць Ірыны Паскевіч, апошняй з князёў Паскевічаў. Нацыянальную бібліятэку ўпрыгожвае манументальнае пано "Айчына" з чатырох частак. Майстра быў упэўнены, што мастацтва павінна мець жыццясцвярджальную мэту.

Жыццё і творчасць народнага мастака апісала ў сваёй кнізе "Народжаны Палессем" Наталля Шаранговіч і Віктар Карамазаў - у аповесці "Брама". Выбух у Чарнобылі мастак трывожна прадчуваў за некалькі гадоў да аварыі, напісаўшы эцюд "Воблака" і карціну "Прадчуванне". Пазней, калі родную вёску абгарадзілі калючым дротам, горыч ад страты радзімы пранізала душу творцы. Пасля паездак у зону з кінематаграфістамі нарадзіліся карціны "Чорная быль", "Чарнобыльскі рэквіем", "Зорка палын".

Магутны валун на Усходніх могілках з крыжам абазначае месца вечнага спачыну мэтра беларускага мастацтва.

*Эла Оліна.*

# Ад роднай зямлі - да высокага служэння слову і культуры

Творчая вечарына, прысвечаная 70-годдзю Анатоля Іванавіча Бутэвіча, адбылася 19 чэрвеня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пры падтрымцы Беларускага фонду культуры.



*Выступае Анатоль Бутэвіч*

Пісьменнік, журналіст, грамадскі дзеяч шмат дзесяцігоддзяў самааддана служыць роднай зямлі. Па яго ініцыятыве адбываюцца маштабныя праекты па захаванні гістарычна-культурнай спадчыны краіны, рэстаўрацыі і музеефікацыі Нясвіжскага замка, праходзіў збор сродкаў на рэстаўрацыю царквы ў вёсцы Вялікая Ліпа, Навагрудскага замка, санктуарыя Маці Божай Будслаўскай. Яго творчасць заслужана адзначана прэстыжнымі літаратурнымі прэміямі.

Прадстаўнікі дзяржаўных устаноў выказалі юбіляру ўдзячнасць за працу, якая спрыяе захаванню і папулярызацыі беларускай культуры, і пажадалі добрага здароўя і аптымізму, шчасця і дабрабыту.

Шчырыя віншаванні паступілі ад Міністэрства інфармацыі і асабіста ад Алеся Карлюкевіча. Анатоль Іванавіч зрабіў шмат для развіцця інфармацыйнай сферы ў нашай краіне. Асаблівае месца ў яго лёсе займае літаратурная праца.

Анатоль Бутэвіч - прызнаны празаік, публіцыст, перакладчык, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтар дзясяткаў кніг, адрасаваных не толькі дарослым, але і юным чытачам. Адзін з яго псеўдонімаў - Максім Валошка. Дзякуючы яго перакладам, на беларускай мове загучалі творы сусветна вядомых пісьменнікаў: Станіслава Лема, Элізы Ажэшкі, Эрнэста Хэмінгуэя, Джэймса Олдрыджа і іншых.

Анатоль Бутэвіч - намеснік старшыні рады Беларускага фонда культуры, член Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, член Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Землякі з задавальненнем адзначалі, што юбіляр з'яўляецца ганаровым грамадзянінам горада Нясвіжа.

- Спадар Анатоль - майстар цудоўнага пісьменства, выдатны прамоўца, бліскучы дыпламат, адзін з найлепшых беларускіх міністраў і добразычлівы чалавек, поўны пачуцця гумару і кахання! - сказаў акадэмік НАН Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі.

Юбіляра павіншавалі Тадэвуш Стружэцкі і Уладзімір Гілеп, Уладзімір Ліпскі. Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі падзякаваў Анатолю Бутэвічу за супрацоўніцтва, добрыя і карысныя ініцыятывы пісьменніка.

Пасля афіцыйнай часткі, пераапрануўшыся ў вышываную кашулю, Анатоль Іванавіч шчыра распавёў пра сваіх бацькоў, гады дзяцінства, родныя мясціны. Ён прапанаваў гасцям вечарыны паглядзець некалькі відэаролікаў, прысвечаных вёсцы і гутаркам з бацькамі.



*Пісьменнік з букетам валошак у вышыванцы*

Пісьменнік нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец, гадаваўся ў вёсцы Баяры Нясвіжскага раёна. Да 1939 года гэтыя паселішчы ўваходзілі ў склад Польшчы. І за польскім часам пабудаваць дом родным было не проста. Калектывізм, весялосць, працавітасць дапамагалі. Бацька спадара Анатоля вельмі любіў зямлю, араў, сеяў, касіў, праз усё жыццё не пакідаў клапацішча пра зямлю і пражыў 87 гадоў. Бацькі пабраліся шлюбам у чэрвені 1944 года, бо ішла пагалоска, што жанатых гнаць у Германію не будуць. Таму яны зрабілі на хутары вяселле перад самым нямецкім хапуном.

- У вёсцы было дваццаць хат, раскіданых праз поле і луг, але іх жыхары заўсёды святкавалі святы разам з гарманістам, збіраліся на ігрышчы. Падлога была земляной, але на ёй ладзіліся вясёлыя танцы, - успамінае Анатоль Іванавіч.

На філфаку БДУ з 1966 па 1971 год спадар Анатоль вучыўся разам з Алесем Разанавым, Яўгеніяй Янішчыц, Таццянай Шамякінай. Ён быў старастам групы і старастам курса. Вячаслаў Пятровіч Рагойша заахвочваў яго да навуковай працы па вывучэнні біяграфій рэпрэсаваных пісьменнікаў. Пасля заканчэння БДУ Анатоль Бутэвіч працаваў рэдактарам БелТА.

Найбольш важнай была яго праца ў якасці старшыні Дзяржаўнага Камітэта па друку (1990-1992), міністра інфармацыі (1992-1994), міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь (1994-1996). Анатоль Бутэвіч з'яўляўся Генеральным консулам Беларусі ў Гданьску ў 1996-1998 гадах, а ў 1998-2000 гг. быў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Румыніі.

Ён адбыўся не толькі як дзяржаўны дзеяч і пісьменнік, але і як шчаслівы муж і бацька. У яго трое дзяцей - Сяргей, Вера і Надзея, ёсць унукі.

Анатоль Бутэвіч выказаў падзяку пашанотным і блізкім людзям, калегам і сябрам, якія прыйшлі на творчую вечарыну. На вечарыне выступіў гурт флейтыстаў "Brevis". На завяршэнні імпрэзы прагучаў запіс песні Ул. Мулявіна "Малітва".

*Эла Дзвінская, фота аўтара.*

# ЧАС ЛІЛЕЯЎ І РУЖАЎ або СУСТРЭЧА Ў РАТУШЫ

**У** гэтай велічнай зале Нясвіжскай ратушы пад далікатным святлом ліхтароў-свечак зазвычай гучаць навуковыя даклады пра часы Сіроткі ды расповеды экскурсаводаў пра Магдэбургскае права, перавагі гарадскога самакіравання.

**Ч**ас лілеяў і ружаў сабраў сюды на гэты раз прыхільнікаў прыгожага пісьменства, аматараў паэтычнага слова. Нагод для літаратурнай сябрыны, прысвечанай творчасці Валянціны Аксак, некалькі. Па-першае, не так даўно паба-



чыў свет сёмы зборнік яе паэзіі "Завінены рай"; па-другое, красавіцкімі днямі адзначыла ўраджэнка нясвіжскіх Смалічоў юбілейную дату жыцця. Клікаў на сустрэчу з вядомай зямлячкай і агульны настрой Года малой радзімы.

**Н**ясвіжская сябрына падрыхтавала да сустрэчы не толькі шчодрыя ахапкі кветак. Адны чыталі вершы з апошняга зборніка, другія - самыя ўлюбёныя творы, у якіх знаходзілі водгук сваіх пачуццяў. Заінтрыгавала прысутных перспектыва пачуць на завяршэнне вечарыны верш першай часопіснай падборкі, з якой калісьці ўступала Валянціна Аксак ў шматаблічны свет беларускай лірыкі.



**П**рыемнай нечаканкай было паслухаць сумоўе дзвюх паэтак: Вікторыя Жукевіч-Дзівота, род якой карэніцца ў нясвіжскіх Іванаве і Лані, пераклала на польскую мову і даслала ў Нясвіж два вершы Валянціны Аксак - "Мой сад" і "Народзіны". Пасярэдніцай паміж паэткамі была знаўца польскай мовы Часлава Суднік.

**Ц**ікавы падарунак-падзяку паэтцы за "старасвецкія нетры мовы" захавала-прывезла Валянціна Холадава са Свержаня. Гэтая мудрая і памятлівая жанчына выканала даўнюю бабуліну песню тых часоў, калі "хадзіў у нас яшчэ талер."

**В**ысока, хораша і вельмі трапна выказала сваё бачанне паэзіі Валянціны Аксак старшыня ТБМ Алена Анісім. Слова дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь на падсумаванне паэтычнай вечарыны яшчэ цясней згуртавала прысутных ў іх патрыятычных памкненнях і дзеях.

**П**ачуваліся тут на роўных людзі творчага занятку і рабочы завода, шчаслівы ўладальнік усіх да аднаго збор-





нікаў Валянціны Аксак і той, хто ўпершыню пачуў яе імя, родзічка паэткі і даўняя смаліцкая суседка. На гранічна шчыры верш аднолькава рэагавалі фізік і лірык, прадавец і настаўнік, пенсіянер і навучэнец каледжа. Здавалася ў мігценні свечак, што разам з імі і Сіротка, і Рыбанька задуменна-ўхвальнаківалі галовамі.

***Вольга Карчэўская***,
*сябра гарадской суполкі "Нясвіж".*

*Павел Сіяцко*

# Прозвішчы Беларусі

## *Новая серыя. Частка 2*

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

1642. **Каханоўскі** (Адам) - вытвор з фармантам -*скі* ад тапоніма *Коханава* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясціны, паселішча': *Коханав-скі* - *Каханоў-скі*.

1643. **Кацапаў** (Андрэй) - прыметнікавая форма з прыналежным суфіксам -*аў* ад антрапоніма *Кацап* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кацап-аў*. ФП: *кацап* (апелятыў з значэннем (саст.) 'зневажальная назва рускага (у адрозненне ад украінца, паляка) (ад укр. *кацап*)') - *Кацап* (мянушка, потым прозвішча) - *Кацапаў*.

1644. **Качук** (Янак) - семантычны вытвор ад апелятыва *качук* (рэг.) 'самец качкі, качар'.

1645. **Кашцялян** (Ірына) - трансфармаваны семантычны варыянт ад апелятыва (ст.-бел.) *каштелян* 'камендант цытадэлі' (Нас.).

1646. **Каян** (Валерый) - семантычны вытвор ад апелятыва *каян* (рус.) 'сініца' (птушка) (Даль).

1647. **Квасоўскі** (Андрэй) - вытвор з фармантам -*скі* ад тапоніма *Квасоўка* і значэннем 'народзінец, жыхар названага паселішча': *Квасоўк-скі* - *Квасоўскі*. ФП: *квасоўка* (рэг.) 'булка хлеба з прэснага цеста для вырабу квасу' (Дабр.) - *Квасоўка* (мянушка, потым прозвішча) - *Квасоўка* (тапонім) - *Квасоўскі*.

1648. **Квашэвіч** (Ігар) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення -*эвіч* ад антрапоніма *Кваша* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кваш-эвіч*. ФП: *кваша* (рэг.) 'тое, што і *квашаніна* (халадзец, студзень)', а таксама '*квашанае* (малако, капуста)' (Даль), 'варанае рэдкае кісла-салодкае цеста', 'плакса' (Грын.) - *Кваша* (мянушка, потым прозвішча) - *Квашэвіч*.

1649. **Кілімаў** (Вадзім) - вытвор з суфіксам прыналежнасці -*аў* ад антрапоніма *Кілім* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кілімаў*. ФП: *кілім* ('шарсцяны бязворсавы дыван ручной работы') - *Кілім* (мянушка, потым прозвішча) - *Кілімаў*.

1650. **Кірпаўка** (Мікалай) - семантычны вытвор ад апелятыва *кірпаўка* (разм.) 'пра кірпаты нос').

1651. **Кірпеня** (Алег) - вытвор з фармантам -*еня* ад антрапоніма *Кірпа* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кірп-еня*. ФП: *кірпа* (разм. 'Пра кароткі і задзёрты нос') - *Кірпа* (мянушка, потым прозвішча) - *Кірпеня*.

1652. **Кірчук** (Іван) - вытвор з суфіксам -*чук* ад антрапоніма *Кір* з семантыкай 'нашчадак названай асобы': *Кірчук*. ФП: *Кір* (імя, з мовы грэкаў *Kyres* 'улада, права, сіла') - *Кір* (празванне, потым прозвішча) - *Кірчук*.

1653. **Кісель** (Рыгор) - семантычны вытвор ад апелятыва *кісель* 'кіслая студзяністая страва з аўсянай мукі або ягаднага соку, заваранага на крухмале', а таксама (перан. пагардл.) 'пра вялага слабахарактарнага чалавека'.

1654. **Кіслін** (Іван) - семантычны вытвор з прыналежным суфіксам -*ін* ад антрапоніма *Кісля* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кісл-ін*. ФП: *кісля* ('тое, што і кіслата' - уласцівасць кіслага, 'пра штонебудзь кіслае') - *Кісля* (мянушка, потым прозвішча) - *Кіслін*.

1655. **Кісляк** (Андрэй) - семантычны вытвор ад апелятыва *кісляк* (разм. пагардл.) 'вялы, нудны чалавек'.

1656. **Кісялевіч** (Аляксандр) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення -*евіч* ад антрапоніма *Кісель* са значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кісел-евіч* - *Кісялевіч*. У прадстаўнікоў шляхты такія прозвішчы нярэдка замяняліся на ўтварэнні з -*еўскі*: *Кісялевіч* - *Кісялеўскі*.

1657. **Кісялёў** (Антон) - вытвор з суфіксам прыналежнасці -*ёў* ад антрапоніма *Кісель* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кісял-ёў* - *Кісялёў*. ФП: *кісель* ('страва') - *Кісель* (мянушка, потым прозвішча) - *Кісялёў*.

1658. **Кісялеўскі** (Леанід) - вытвор з фармантам -*скі* ад антрапоніма *Кісялёў* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кісялёў-скі* - *Кісялеўскі*. Або як прэстыжная форма з фармантам -*еўскі* ад *Кісель*: *Кісял-еўскі*.

1659. **Кіў** (Уладзіслаў) - семантычны вытвор ад апелятыва *кіў* 'тое, што і *ківок* - нахіл галавы ў знак прывітання, згоды і пад.'. ФП: *ківаць* ('рабіць лёгкія рухі галавой у знак прывітання, адабрэння, нязгоды і пад.') - *ківок* і *кіў* - *Кіў* (мянушка) - *Кіў* (прозвішча).

1660. **Клепік** (Міхась) - семантычны вытвор ад апелятыва *клепік* (утварэння з суфіксам -*ік* ад *кляпаць* 'злучаць часткі чаго-н. пры дапамозе заклёпак', а таксама 'ударамі малатка вастрыць лязо касы'), 'той, хто займаецца кляпаннем'.

1661. **Ключэня** (Ірына) - вытвор з суфіксам -*эня (-еня)* ад антрапоніма *Ключ* з значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Ключ-эня*. ФП: *ключ* (апелятыў мае некалькі значэнняў: 1) металічная прылада для адмыкання і замыкання замка; 2) прылада для завінчвання і адвінчвання гаек, адкаркоўвання чаго-н., для заводкі чаго-н. і пад.; 3) перан. Тое, што служыць для разгадкі, разумення каго-н., чаго-н., для авалодання чым-н.; *ключ* [2] (знак у пачатку нотнага радка, які вызначае вышыню нот); *ключ* [3] (чарада птушак (гусей, жураўлёў і пад.) у палёце); *ключ* [4] (спец.) верхні камень, якім заканчваецца арка, скляпенне. Або *ключ* (рус.) 'крыніца') - *Ключ* (мянушка, пазней прозвішча) - *Ключэня* / *Ключеня*.

1662. **Кобец** (Аліна) - семантычны вытвор ад апелятыва *кобец* 'птушка - *кобчык*, шулёнак' < укр. *кобець*.

1663. **Когут** (Вольга) - семантычны вытвор ад апелятыва (рэг.) *когут* < польск. *kogut* 'певень'.

1664. **Коўтун** (Вольга) - акцэнтаваная форма ад *Каўтун* (гл. **Каўтуновіч**).

1665. **Кошур** (Святлана) - другасная форма, першасная *Кошар* - семантычны вытвор ад апелятыва *кошар* (рэг.) 'кашэрная ежа' ("Вялікі слоўнік беларускай мовы" Ф. Піскунова, с. 449) - *Кошар* (мянушка, потым прозвішча) - *Кошур* (дыялектная форма, параўн. *Коршук* < *Коршак*).

1666. **Красніцкая** (Нэлі) - вытвор з фармантам -*ская*/-*іцкая* ад тапоніма *Краснікі, Краснае* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Краснік-ская* - *Красніцкая, Красн-іцкая* - *Красніцкая*.

1667. **Крофта** (Цімафей) - другасная форма, першасная *Крохта* - семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *крохта* - нульсуфіксавы дэрыват ад *крахтаць* 'утвараць міжвольныя ціхія, адрывістыя гукі, стогны (ад болю, пры няёмкім становішчы і пад.)', 'той, хто *крэхча*', сінонім да *крахтун*.

1668. **Крывальцэвіч** (Раіса) - форма бацькаймення з акцэнтаваным суфіксам -*эвіч* ад антрапоніма *Крывалец* з значэннем 'нашчадак названай асобы': *Крывалец-эвіч* - *Крывальц-эвіч*. ФП: *крывы* ('выгнуты, не прамы', 'ненармальны, пакалечаны (пра часткі цела)', 'з пашкоджанай нагой (нагамі), кульгавы') - *крываль* ('пра крывога чалавека', суфікс -*аль*) - *Крываль* (мянушка, потым прозвішча) - *Крывалец* ('сын *Крываля*', суфікс -*ец*) - *Крывальцэвіч*.

1669. **Крыксіна** (Ірына) - вытвор з суфіксам прыналежнасці -*ін-а* ад антрапоніма *Крыкса* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Крыкс-іна*. ФП: *крыкса* ('пра крыклівае і плаксівае дзіця', 'пра крыклівага чалавека') - *Крыкса* (мянушка, потым прозвішча) - *Крыксіна*.

1670. **Крыніцкі** (Іван) - вытвор з суфіксам -*скі* ад тапоніма *Крыніца* і значэннем 'з мясціны *Крыніца*': *Крыніц-скі* - *Крыніцкі*.

1671. **Крэнь** (Іван) - другасная форма, першасная *Крэн* - семантычны вытвор ад апелятыва *крэн* 'нахіл набок (карабель, самалёт)', перан. 'змяненне напрамку дзейнасці, паварот да іншых задач'; форма з мяккай асновай *Крэнь* дзеля адмежавання ад апелятыва.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Падарожжа на радзіму братоў Гарэцкіх

У год 125-годдзя класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага сябрам ТБМ на чале з Аленай Мікалеўнай Анісім было важна здзейсніць падарожжа на яго малую радзіму і наведаць дом-музей пісьменніка ў вёсцы Малая Багацькаўка.

Ініцыятыву праявілі старшыня менскай гарадской арганізацыі ТБМ Аляксандр Давідовіч і старшыня Магілёўскага ТБМ АлегДзьячкоў. Як гісторык і дасведчаны экскурсавод, спадар Алег прапанаваў насычаны маршрут з наведваннем мястэчка Княжыцы, Магілёва, Мсціслава і Пустынак. Пра ваколіцы Менска распавёў яго калега Павел Мезаўцоў.



Сябры ТБМ ля літаратурнага музея М. І. Гарэцкага

У Малой Багацькаўцы сябры ТБМ пазнаёміліся з экспазіцыяй літаратурнага музея Максіма Гарэцкага, філіяла Мсціслаўскага раённага гістарычна-археалагічнага музея. Ён быў заснаваны 15 студзеня 1993 года года паводле загаду Міністэрства культуры. Крыніцамі дакументальных звестак з'явіліся ўспаміны брата М. Гарэцкага - Гаўрылы, дачкі пісьменніка Галіны, яго жонкі - дзіцячай пісьменніцы Леаніды Чарняўскай-Гарэцкай і малодшага брата Парфірыя. Экспазіцыя музея складаецца з літаратурнай часткі, якая прадстаўляе асноўныя этапы творчай біяграфіі пісьменніка, і этнаграфічнай.



Група турыстаў унутры сядзібы

Наведвальнікі пабачылі фотаздымкі Івана Кузьміча і Еўфрасінні Міхайлаўны Гарэцкіх, асобнікі кніг Максіма Гарэцкага, прадметы побыту. У драўлянай хаце жылі 12 чалавек. Дубовая калыска, прывязаная да столі, прыбраная ручнікамі, сведчыць пра тое, што вялікія адраджэнцы Беларусі гадаваліся ў сціплых умовах, але моц іх духу, грамадзянскія і патрыятычныя пачуцці дазвалялі ім дасягаць вышыняў у літаратуры і навуцы. На выстаўцы знаходзіцца атэстат Каморніцкага агранамічнага вучылішча, дзе вучыўся Максім Іванавіч.

Супрацоўніца музея распавяла пра розныя перыяды дзейнасці пісьменніка: багацькаўскі і першы горацкі (1893 - 1913 гг.), першы віленскі (1913-14 гг.), службу ў войску, смаленскі перыяд (1917-19 гг.) і другі віленскі перыяд (1919-23 гг.), працу ў Інбелкульце, выкладанне беларусазнаўства на рабфаку БДУ. Падрабязней яна спынілася на другім менскім адрэзку жыцця пісьменніка (1928-30 гг.), працы ў Акадэміі Навук БССР, распавяла пра абставіны яго арышту, пра вяцкі перыяд (1931-35 гг.) - працу ў высылцы і кіраўскі час (1935-37 гг.) - пра выкладанне літаратуры, арышт і заўчасны сыход пісьменніка з жыцця. Вандроўнікі разам з Аленай Анісім сфатаграфаваліся на ганку сядзібы і ў адным з пакояў.

Як адзначыў Алег Дзьячкоў, пытанне аб пераносе дома-музея ў Мсціслаў, супраць якога выступаў акадэмік Радзім Гарэцкі, зараз ужо не ўздымаецца.

Падчас падарожжа сябры ТБМ пачулі цікавы аповед пра беларускіх мастакоў, звязаных з Магілёўшчынай: Апалінарыя Гараўскага, Вітольда Бялыніцкага-Бірулю, Мікалая Неўрава, Паўла Масленікава.

Падарожнікі спыніліся ў мястэчку Княжыцы, дзе нарадзіўся вядомы жывапісец XX стагоддзя Павел Масленікаў, і агледзелі каталіцкі касцёл XVIII стагоддзя.

Алег Дзьячкоў распавёў пра Калінінскую акругу, якая паспяхова праводзіла палітыку беларусізацыі ў 1924-1924 годзе пад кіраўніцтвам дзеяча тых часоўАлеся Адамовіча. Тут выпускалася газета на беларускай мове "Наш працаўнік", тут жылі і працавалі Уладзімір Дубоўка і Паўліна Мядзёлка.

Прывабным для турыстаў стаў факт, што вёску Александрыя заснаваў Аляксандр Іванавіч Хадкевіч - дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мецэнат.

Праязджаючы праз Магілёў тэбэзмаўцы пачулі шмат цікавага пра рэлігійнага дзеяча, літаратара і навукоўца Станіслава Богуш-Сестранцэвіча, які быў родным дзядзькам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Да канца жыцця ён заставаўся арцыбіскупам Магілёўскім, мітрапалітам рымска-каталіцкіх цэркваў Расеі.

Аўтобус спыніўся ля будынка ратушы, і турысты паслухалі аповед Алега Дзьячкова пра яе пабудову ў 1681 годзе, разбурэнне і аднаўленне ў 1992 годзе.

*Э. Оліна,*
*фота аўтара.*



Інтэр'ер музея

# Па ваколіцах Мсціслава

Для сяброў ТБМ прыцягальным з'яўляецца той факт, што ў Мсціславе нарадзіўся, вучыўся і працаваў вядомы археолаг, ганаровы старшыня ТБМ, кандыдат гістарычных навук Алег Анатольевіч Трусаў. Тут ён паспяхова праводзіў археалагічныя раскопкі разам з Міхасём Ткачовым. Таму на знаёмства з горадам, які стаіць на рацэ Віхры, прытоку Сожа, на мяжы з Расіяй, спатрэбілася каля чатырох гадзін.

Падрабязна пра гісторыю горада тэбэзмаўцы даведаліся з аповеду экскурсавода мясцовага гістарычна-археалагічнага музея Ларысы Уладзіміраўны Уласені.



Ля помніка Пятру Мсціслаўцу

Археолагі вызначылі, што ўпершыню на гэтым месцы людзі пасяліліся некалькі тысяч гадоў таму, яшчэ ў эпоху бронзавага веку. На правым беразе Віхры, на высокай гары, якая атрымала рамантычную назву Дзявочая, узнік невялікі родавы пасёлак, дзе жылі балцкія плямёны каля 200 гадоў (I ст. да н. э. - I ст. н. э.). Яны займаліся рыбалоўствам, паляваннем, жывёлагадоўляй і земляробствам. У XII-XVII стагоддзях, на Замкавай гары ўзвышаўся велічны драўляны шматвежавы замак, дзе было шмат жылых і гаспадарчых пабудоў, стаялі храм і княжацкі палац. У 1634 годзе горад атрымаў Магдэбургскае права і герб "Малую пагоню" ў выглядзе рыцарскай рукі з мячом над аблокамі. У экспазіцыі музея захоўваюцца берасцяныя граматы, крыжы, керамічны посуд, кафля.

Майстэрства вырабу паліхромнай (шматколернай) кафлі прынесла найбольшую славу мсціслаўскім майстрам у XVII стагоддзі. Адным з іх быў Сцяпан Іваноў па мянушцы Палубес. Трапіўшы ў Маскву ў 1654 годзе вельмі маладым чалавекам, ён аздобіў рэльефнай паліхромнай кафляй маскоўскія храмы, а таксама царскі палац. Мсціслаўскія шкларобы выраблялі разнастайны шкляны посуд: кілішкі, збаны, кубкі, келіхі, кварты, куфлі. Пра ўсе мясцовыя цікавосткі з душой распавяла экскурсавод Ларыса Уладзіміраўна, у мінулым - настаўніца.

У Мсціславе вандроўнікі агледзелі кармеліцкі касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі. Там захаваліся ўнікальныя фрэскі, архітэктурны дэкор. Будынак наведваў Уладзімір Караткевіч і пісаў пра яго. У старажытным касцёле адчуваецца прахалода даўніх камянёў і свежы павеў Святога Духа. Іншай велічнай архітэктурнай дамінантай горада з'яўляецца езуіцкі касцёл Святога Міхала XVII стагоддзя, пабудаваны ў формах ранняга барока.

На Замкавай гары Алег Дзьячкоў звярнуў увагу турыстаў на валун, пастаўлены ў памяць Сямёна Лугвена Альгердавіча, родапачынальніка князёў Мсціслаўскіх, героя Грунвальдскай бітвы, фундатара праваслаўных святынь. Тут побач на пляцы ў жніўні традыцыйна праходзіць "Рыцарскі фэст", у якім удзельнічаюць клубы гістарычных рэканструкцый з Менска, Полацка, Барысава, Гародні і іншых гарадоў.

Той, хто не пабаяўся спусціцца па крутой лесвіцы з гары, крочыў разам з гідам да крыніцы Тупічэўскай Божай Маці і паспрабаваў празрыстай сцюдзёнай вады. Тупічэўскі праваслаўны манастыр быў заснаваны ў Мсціславе ў пачатку XVII стагоддзя.

У горадзе грамада агледзела два помнікі паслядоўніку Францішка Скарыны друкару Пятру Мсціслаўцу, які выдаў "Апостал", "Часоўнік" "Евангелле Напрастольнае", "Псалтыр". Вандроўнікі пабачылі будынак сінагогі, агледзелі гімназію, дзе вучыліся паэт Аркадзь Куляшоў, Юлій Таўбін, Змітрок Астапенка і іншыя пісьменнікі.

Хараство, прыгажосць і душэўнасць сумеснага падарожжа найлепш праявіліся на зваротным шляху. У аўтобусе з чытаннем вершаў выступілі паэткі Святлана Багданкевіч і Ядвіга Рай. Лейтматывам іх твораў было: "Не здавайце ў рабства Айчыну!" Прафесар Мікалай Іванавіч Савіцкі з глыбокім пачуццём прадэкламаваў вершы Максіма Багдановіча і Анатоля Сыса.



У гістарычна-археалагічным музеі Мсціслава

Бард Аляксей Галіч заспяваў пад гітару купальскія песні, і да яго ахвотна далучыліся вандроўнікі. Многім песні знаёмыя з дзяцінства. У хоры галасоў звонка гучаў голас старшыні ТБМ Алены Анісім. Потым бард перайшоў да твораў Сяржука Сокалава-Воюша, Эдуарда Акуліна. Голас яго быў напоўнены трапяткімі пачуццямі і пяшчотай:

*Аксамітны летні вечар*
*ахінуў зямлю...*

У час, калі барвяны дыск сонца апускаўся за аблокі, кожны ўспамінаў маладосць, калі слухаў купальскія песні на падворку суседскай хаты альбо ля вогнішча ў студэнцкім будатрадзе ці на бульбе.

Вандроўка адкрыла сябрам ТБМ новыя веды пра слынных дзеячаў культуры, мастацтва, навукі, паглыбіла знаёмства з архітэктурнымі забудовамі і помнікамі XVII-XX стагоддзяў, узбагаціла інфармацыяй пра знакамітых асобаў, якія паходзілі з Магілёўшчыны і прысвяцілі сваю дзейнасць гэтаму рэгіёну.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

## ПАЙСЦІ - І ВЯРНУЦЦА

**У**яўляючы Мацярык Васіля Быкава, складаліся ў мяне такія радкі:

*"О, выспа шчасця - Атлантыда:*
*каму амбон, каму - карыта…*
*Тарнада зможа тут прайсці.*
*Але атланта-беларуса*
*не змые хваля землятрусу:*
*яго - назло! - утрымаць павінна*
*жывога слова пупавіна".*



**П**ершы раз сустрэўся з Васілём Уладзіміравічам каля Каложы тым чэрвенем, калі жыхару Гародні споўнілася 45 гадоў. Напружаныя былі часіны для пісьменніка-франтавіка, які не хаваў ад чытача жорсткую праўду вайны. Перажываў, бо хмары часта зависалі над выпакутаванымі аповесцямі. Але ў маім першым вершы-прысвячэнні В. Быкаву нібыта яго вуснамі вымавіліся такія аптымістычныя радкі:

*"Чую, чую: у звыклай буднасці*
*трапяткое крыло… І верыцца:*
*не заснула ты, чуйнае сэрца,*
*да прылётнай абуднасці.*
*Пад завеяй не затыхнулася,*
*не знямела яшчэ - і можа*
*тою гулкаю быць Каложай,*
*што над Нёманам пахіснулася".*

**В**асіль Быкаў, як ніхто іншы з нашых літаратараў, стаў самым гулкім на кантынентах планеты, куды разам з яго творамі "перакладалася" Беларусь і найменне таго народа, які, паводле разважанняў В. Быкава, мужна, балюча ўсё яшчэ стварае з сябе нацыю.

**Дз**яржаватворцам быў Быкаў у с в а е 45 гадоў. Такім ён застаецца і цяпер, у яго і ўжо ў н а ш а 90-годдзе, калі мы ў дзень юбілею згадваем і Героя (Літаратурнай!) Працы, і Народнага, а таксама - міжнароднага) пісьменніка.

**В**асіль Быкаў "дажыў да світання" сваёй высакароднай ідэі - Словам служыць Праўдзе. Цяпер яго "доўгую дарогу дадому" прадаўжаюць нам - богакроплям у дабраслаўлёным ім акіяне жыцця. Калісьці, нібыта ад імя Быкава, складаліся такія радкі з прысвечанага яму верша:

*"Мая світальная істота -*
*асоба гордая, жывая…*
*Яна для Госпада - гаспода*
*маліцвенная, крыжавая".*

**Т**о хай і сёння бадзёрыцца для новых узлётаў пранізлівая душа Васіля Уладзіміравіча. А светлая памяць пра атланта асмельвае нас на ўгаспадарлівасць яго айчыннага Мацерыка.

*Сяргей Панізьнік.*

На здымку: Васіль Быкаў. Гародня, Замкавая гара. Чэрвень 1969 г. Фота С. Панізніка.

## ТБМ запусціла 30-дзённы збор сродкаў на ulej.by

ТБМ збірае сродкі на бягучую дзейнасць і на рамонт офіса. Усяго цягам месяца можна будзе падтрымаць арганізацыю праз **https://ulej.by/project?id=718768.**

Падтрымаць можна на розныя сумы (5, 10, 20 і г.д.). З любымі пытаннямі і прапановамі па кампаніі можна звяртацца на **siadziba@gmail.com.**

### *Навіны Германіі*

# Як нямецкі пенсіянер ехаў праз Беларусь на ЧС-2018

***Хуберту 70 гадоў, трактар у яго яшчэ даваенны, сваімі рукамі адноўлены, а паездка - далёка не першая.***

**П**ыльны асфальт пад Рагачовам. Стомленае чэрвеньскае сонца завяршае доўгі паход па небасхіле. Зззаду 700 кіламетраў бясплодных пошукаў. Але мы ўсё-такі яго знайшлі. Як іголку - не, як іголкавае вушка ў стозе сена.

**Х**уберт Вірт, 70-гадовы нямецкі пенсіянер, які ўсё яшчэ падзарабляе на радзіме кіроўцам грузавіка, едзе на футбольны чэмпіянат свету ў Маскву заўзець за родную Германію. На даваенным трактары, які старанна цягне пераабсталяваную ў хату на колах драўляную бочку для саўны.

**Д**атэлефанаваліся да Хуберта на шостай гадзіне пошукаў, падчас якіх праехалі нават знакамітыя Мышкавічы (цэнтр калгаса, цяпер СПК, "Світанак" імя Арлоўскага, дзе Васіль Старавойтаў старшынём быў). Радасці ў голасе ніякай:

- Я ўжо даў тры інтэрв'ю, цяпер на нервах, таму што выбіўся з графіка, і трэба ехаць далей. Давайце заўтра ў 9 раніцы. Да спаткання.

- А адкуль і куды вы едзеце?

- З Бабруйска ў бок Палесся.

**У**гу, вельмі дакладна. І раптам у гутарцы праскоквае: "Дарога нумар 43". Ух, ужо сёе-тое. Вырашаем не адкладаць на заўтра тое, што можна паспрабаваць зрабіць сёння. З сябрамі-калегамі з мясцовай тэлекампаніі гонім на Рагачоў, каб потым рухацца немцу насустрач.

**М**анеўр атрымаўся: жаданы трактар тупае насустрач. Разварочваемся і прыладжваемся ззаду. Хуткасць - роўна 20 км/г. Абганяем, махаем рукамі, Хуберт махае ў адказ, але не тармозіць. Ліхаманкава думаем, што рабіць далей. Нясёмся наперад, спыняемся, калегі выстаўляюць камеры, каб адздымаць хоць бы праезд цуду па дарозе. Удалечыні, прыкладна за метраў 800 ад нас, на спуску з'яўляецца ўжо знаёмая кропка (а лескатанне чуецца яшчэ раней). І раптам кропка спыняецца. Вось ён, шанец! Шанцішча! Імгненнем у машыну і да трактара.

- Я вам тэлефанаваў пару гадзін назад. Мы шукалі вас восем гадзін і таксама стомленыя, - нясмела звяртаюся да немца. Той, учуўшы Muttersprache (родную гаворку), адразу ідзе на кантакт. Мабыць, праехаўшы энную колькасць кіламетраў без адцягнення на гутаркі з незнаёмцамі, зняў стрэс і трошкі астыў.

**А**казалася, што Хуберт едзе на футбол не ў ганарлівай адзіноце. У дарогу ён узяў таксу Ведзьму - так перакладаецца на рускі яе мянушка Хексе (Hexe). Відаць, што вандроўніца дасведчаная, на нас - нуль увагі. З Ведзьмай яе гаспадар ездзіў - на трактары, зразумела - два гады назад у Францыю на футбольны чэмпіянат Еўропы. Накатаў 2500 км і стаў героем рэгіянальнай нямецкай прэсы.

**Н**аогул ён збіраўся за тры месяцы дабрацца да Гібралтара і вярнуцца дахаты, аднак перашкодзіла гідкае надвор'е. Важ працягваўся ўсяго сем тыдняў. Пасля гэтага Вірт намерыўся пабудаваць зачыненую кабіну, але рукі пакуль не дайшлі. А так ён ездзіць на трактарах за кардон раз у год. Самым далёкім было вандраванне ў іспанскі горад Сант'яга-дэ-Кампастэлу. Цёпла ўспамінае немец паездкі ў Італію і на Корсіку. Бела-чырвона-бела-зялёны сцяг Сіены ён нават вывесіў у сваім мабільным жытле.

**С**амы адданы заўзятар зборнай Германіі ўсё жыццё пражыў у федэральнай зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Нарадзіўся ў невялікім горадзе Ротэнбург-ам-Некар (насельніцтва каля 43 тысяч), у 2003-м пераехаў у вёску Шальброн недалёка ад 120-тысячнага Пфорцхайма.

**Д**арэчы, беларускія калегі з іншых сайтаў, якія бралі ў Хуберта інтэрв'ю, хібна "пасялілі" яго ў падобным па гучанні баварскім Форххайме, хоць досыць было пагладзець на нумарныя знакі яго трактара і хаты на колах з літарамі PF. Знакі гэтыя наогул маюць у немца пэўную сэнсавую нагрузку: на жалезным кані - PF HW 48 (Пфорцхайм, Hubert Wirth, 1948 года нараджэння), на прычэпе - PF HW 2007 (год пачатку паездак на трактары).



*Хуберт Вірт*

### "Жалезны конь"

Lanz Bulldog быў выпушчаны ў 1936 годзе.

- Пасля пакупкі я рамантаваў яго два гады, гэта каштавала дорага. Затое тут няма ніякай электронікі, - ганарліва кажа Хуберт, які "заўсёды быў звязаны з тэхнікай".

**А**грэгат запускае ўручную - здымным рулём кіравання. На 100 км трактар з'ядае 18 літраў дызпаліва.

- Шмат, але тут яно таннае ў параўнанні з Германіяй, - раблю рэмарку. Немец толькі хітра ўсміхаецца.

**В**ыбар бочкі для саўны просты: "Люблю дрэва". Прычым настолькі, што мінулай восенню ў Шальброне закацў скандал, які дайшоў да СМІ, калі насуперак дамоўленасцям насупраць яго хаты ссеклі любімую 14-мятровую елку і ў якасці калядная павезлі ў Пфорцхайм. Нічога не нагадвае?

**В**ірт стартаваў на ЧС у Расію 15 траўня, пакінуўшы дома сям'ю.

- Сямейнікі ставяцца з разуменнем. Трэба - значыць, трэба.

**Ш**тодня ён пераадольвае 100-120 км, разлічваючы паспець да стартавага матчу зборнай Германіі супраць мексіканцаў 17 чэрвеня. Ехаў галоўным чынам па рэгіянальных дарогах: з такой хуткасцю трактару на аўтабаны ў двухкоссях і без гэтых ніяк нельга. Тым не менш белталаўскі прыбор для праезду па платных беларускіх дарогах ён набыў.

**Н**айбольшы стрэс даставіла беларуская мяжа з Польшчай.

- Не хацелі пускаць. Чаму? Дакументы, дакументы… Ветэрынар прыходзіў, сабаку аглядаў.

**Н**е ў захапленні Хуберт і ад таго, што на АЗС трэба глушыць рухавік - потым даводзіцца разагрэваць запальным шарам. Але, калі сумленна, пакінь гэтыя 20 шумных конскіх сіл у працы - і запраўкі пойдуць расколінамі.

**У** Расію немец едзе ўпершыню, да паездкі рыхтаваўся цэлы год.

- Я заўсёды марыў наведаць гэтую краіну і ўдзячны за тое, што гэта адбудзецца.

**З** Масквы фанат нямецкай зборнай плануе пераехаць у Санкт-Пецярбург, каб 14 ліпеня наведаць матч за трэцяе месца. Адтуль на пароме разам з трактарам ён адправіцца ў Хельсінкі, а потым на поўнач Германіі, у Кіль. Так што, калі любімая каманда, як і чатыры гады назад, выйдзе ў фінал ЧС, Хуберт Вірт, хутчэй за ўсё, яе бітву за "золата" ўбачыць не ўбачыць.

**П**агаварыўшы паўгадзіны, развітваемся да раніцы. Мне інфармацыі быццам бы досыць, а калегам трэба даздымаць матэрыял пры святле дня. Хуберт, як і казаў, чакае на 9 гадзін. У 2 гадзіны ночы мы ў Менску, а ўжо напачатку шостага хлопцы стартуюць назад пад Рагачоў. Роўна ў 9 яны на стаянцы, дзе прыпаркаваўся трактар. Свежы і вясёлы немец прама ачмурэў ад дакладнасці. Пачалі збірацца мясцовыя - пагладзець наўздзіў дзівоснае. Хтосьці прынёс пару банак знакамітай рагачоўскай згушчонкі.

**П**а тэлефоне дапамагаю калегам кантактаваць з Хубертам, і тут адзін з іх кажа: "Ён штосьці хоча ад цябе, перадаю трубку".

- Паслухай, - кажа паспелы стаць сябрам, таварышам і братам немец, - у мяне просьба: ты можаш дастаць квіток на матч Германія - Мексіка?

*Зміцер УЛАСАЎ.*
*Naviny.by.*







*Да 155-годдзя паўстання 1863 г.*

*Апалонія з Далеўскіх Серакоўская*

# Успаміны

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Кленчыў на нарах стары з тварам заплаканым, узрушаным. Выгнанцы бачылі ўжо на папярэдніх этапах гэтую постаць прыгорбленага старога. Ён маўчаў, і яны не адзываліся. Кожны быў заняты ўласнаю мукай. Худыя, замёрзлыя, скалечаныя грубымі кайданамі цягнуліся ад этапа да этапа.

Грымнула вестка сярод выгнанцаў, што гэта няшчасны Лукасінскі, міласціва аблашчаны маніфестам з Шлісельбургскай цвердзі на 15 гадоў цяжкіх работ. З гэтага часу атачылі яго магчымай у тых акалічнсцях апекай. Нядоўга ўжо яе патрабаваў

На некатарым з наступных этапаў замардавалі яго разбойнікі за 30 капеек, якія меў пры сабе, у этапавым калідоры

(Сёння ведаю, што тут памылка. П[ан] Аскеназы спраўдзіў і давёў, што Лукасінскі памёр у Шлісельбургскай цвердзі. Хаця магло быць і тут непаразуменне. Звычайна ў выпадку смерці каго-небудзь з прыгавораных да прыбыцця на месца, вызначанае дэкрэтам, канвойны дае знаць пра смерць у цвердзь каменданту, адкуль узялі вязня. Адтуль мог выйсці адказ на пытанне шукальнікаў інфармацыі, ці жывы Лукасінскі і дзе ён знаходзіцца? "Памёр". Да канца тэрміну або да смерці ў той жа цвердзі захоўваюцца пазасталыя пасля прыгаворанага грошы і паперы).

Ва ўсякім разе, ужо ніколі сям'я не даведаецца, кім быў той няшчасны стары. А колькі ж было да яго падобных згубленых, забытых усімі?

Францішак захварэў на тыф. Канвойныя хацелі пакінуць яго ў шпіталі. Аляксандр супрацівіўся таму. Ужо ведаў, чым ёсць этапны шпіталь для вязняў. У тых шпіталях толькі здаровы мог цудам выжыць. А што, калі цяжка хворы!

Апавядаюць выгнанцы, што доктар там што дзень заходзіць, дакладней становіцца на парозе шпіталя, бо далей не з рукі ступіць з-за цяжкага паветра, чарвей і бруду. І так здалёку крычыць загадным голасам: "Паказаць языкі!" Адны высоўваюць, іншыя цяжка хворыя не чуюць і не разумеюць, а іншыя яшчэ плююць на доктара са сваіх ложкаў. Доктара гэта мала хвалюе. З урачыстай мінай вяртаецца, сядае і без ніякага роздуму і сумнення выпісвае для ўсіх без выключэння адзін і той жа сродак, гледзячы толькі на яго таннасць.

Аляксандр забраў Францішка. Кінулі яго на воз ці падводу з рэчамі. Мароз жудасны! На кожным этапе бег няшчасны Аляксандр пераканацца, ці брат яшчэ жывы. Жыў і папраўляўся. Што яго вылечыла? Цяжка зразумець. Чыстае паветра? Мароз? Ці слёзы і малітвы далёкай маці?!

Дарога трывала цэлы год. Як ім прайшлі гады тэрміну і дзе? няшмат ведаю. Не хацелі ніколі нам апавядаць і муціць спакой маладосці. Ведаем толькі ад іх суседзяў па ссылцы, што калі ўжо ім можна было знаходзіцца ў Іркуцку, ужо там ведалі, што набліжаецца новая партыя прыгавораных. Паўсталі сярод старэйшай генерацыі нарады, сумненні - хто яны? як іх прыняць? ці прыгарнуць? і да т.п. У канцы ўзнікае агідная рэч. Знаходзіцца такія ўжо ў лепшым быце (прозвішчаў не называю), якія галасуюць за тое, каб пачакаць для праверкі, ці вартыя, ці не вартыя прыняцця ў таварыства. З тога ліку вылучыліся Гофмайстар, Добрыч, Сцягенны, Пётр Высоцкі і некалькі іншых, прозвішчаў якіх не памятаю. Пётр Высоцкі прывітаў гарачым сэрцам новапрыбылых, вымучаных, бяссільных, без вопраткі і без сродкаў для жыцця. Высакародны, дабраслаўляю сёння яго памяць, як яго дабраслаўляла ўсе пазасталыя дні жыцця маці нашая за дабрыню, аказаную няшчасным.

Пасля ўладжвання фармальнасцяў, калі ўжо асуджаным было можна падумаць пра свой лёс, Пётр Высоцкі наняў малую хатку, паставіў самаварык (ці нешта падобнае), прыкрыў стол нейкім кавалкам падранай кашулі, рукавы якой віселі па абодва бакі стала, паставіў пасярэдзіне латунны ліхтар з запаленай лаёўкай (сальнай капцілкай), пры тым хлеб, цукар, гарбата, на столачку місу з вадой і чыстыя кашулі. Сам узрушаны, дрыготкі выбег прывітаць і прыняць абодвух Далеўскіх. Увёўшы ў дом, абдымаў, цалаваў кожнага з іх пачарзе. Пасля чаго паварочваецца ў бок стала: "Гляньце! Па-нашаму засядзем тут за сталом, так як сядзелі на нашай любай Бацькаўшчыне! За сталом, накрытым сурвэтай!".

Тое, што Высоцкі зрабіў для Далеўскіх, іншыя, вышэй пералічаныя, зрабілі для іхніх таварышаў.

Вось адгэтуль і крыўда загнязздзілася ў сэрцах малодшай генерацыі. Не маглі прабачыць да смерці эгаізму старэйшых, якія адхіляліся ад тых, якія цярпелі за тую ж справу, што і яны. Непрыязнь тая павялічылася яшчэ, калі пасля маніфесту старэйшыя падзялілі іркуцкую бібліятэку паміж сабой, даводзячы, што ўжо ні выгнанцаў, ні прычын для выгнання не павінна быць.

Малодшыя даводзілі, што паколькі бібліятэка паўстала па большай частцы з крэўных ахвяраванняў (Ендрыёва Снядэцкая з Вільні і Ружа Сабаньская з Варшавы найбольш спрычыніліся да яе ўзбагачэння) з думкай пра выгнанцаў і наогул пра тых з палякаў, якіх нешчаслівыя шляхі жыцця аддалілі з краю, павінна там застацца, а не вяртацца на Бацькаўшчыну, як прыватная ўласнасць. Малодшыя пакінулі сваю ў кс. Швярніцкага пры каталіцкім касцёліку. 1863 год паказаў, хто меў слушнасць.

Далеўскія пасля пасялення ў Іркуцкуу найперш заклапаціліся пра лёс сялян і рамеснікаў. Купілі за 5 рублёў домік з зямлёю. Быў там вялікі пакой і яшчэ большая кухня, а таксама гаспадарчае памяшканне. Запрасілі да сябе ўсіх, якія не мелі дзе прытуліцца. Было жыллё, але з чаго жыць і прыадзецца? Францішку прыйшла шчаслівая думка, адзіная якая магла пры працы забяспечыць спажыву вялікай грамадзе. Арганізавалі бойню. Першыя 25 рублёў пазычыў з вялікім неспакоем і ваганнем Рачынскі Францішак купіў валоў, распрадаў мяса і сплаціў доўг са значным прыбыткам. Рачынскі выдзеліў большую суму, атрымаў большы прыбытак. У канцы Францішак мог ужо трымацца на ўласных сілах. Заснаваў сталую бойню, якая дазваляла яму прадаваць лепшыя часткі мяса, рабіць мыла і свечкі. Галовы, ногі і абрэзкі забяспечвалі бедакоў бясплатным пажыўным харчаваннем.

Каля гэтага ўсяго трэба было людской працы. Тым самым дасягнулі мэты, якой было жыллё, харчаванне і праца для тых, якія гэта патрабавалася да таго часу, пакуль знойдуць сабе нешта лепшае і больш адпаведнае.

Францішак сам [або] у сапраўднасці Фларыяна Даноўскага ездзіў конна па аддаленых статках для вышуквання валоў. Праводзіў у тых небяспечных і цяжкіх падарожжах часта цэлыя тыдні і месяцы як летам, так і ў час моцных марозаў і зімовых замецяў. Аляксандр з таварышамі вёў работы дома.

Распавядаў нам Даноўскі наступную прыгоду: аднаго дня зімовай парой, калі ён з Францішкам ехаў праз сібірскія пустэчы, пакрытыя тоўстым слоем снегу, і калі найменш чакалі, з-пад кучы снегу выскачылі некалькі адчайных беглых бандытаў.

Нашы падарожныя не мелі пры сабе ніякай зброі. Давядзецца загінуць - паглядзелі адзін на аднаго. Раптам Даноўскаму прыходзіць шчаслівая думка - спрабуе - раптам удаецца. Сягае рукой у кішэню, у якой меў схаваную чорную сухую каўбасу - здзервянела. Прымаючы грозную паставу, цэліцца ў найбліжэйшага разбойніка гукаючы: "Один шаг ближе и убью! Стой не шевелись"[40]. Уражаныя разбойнікі, прымаючы сухую каўбасу за пісталет, падаюць у снег на калені і крычаць: "Батюшка родной! Прости! Прости! Виноват!"[41] Даноўскі, бачачы добры вынік сваёй задумкі, яшчэ з грознейшым тварам крычыць: "Развярнуцца і бегчы не аглядваючыся, бо, як толькі якога лоб убачу, пальну і заб'ю на месцы!"

І так з выцягнутай кілбасой, са зведзенымі брывямі, з грознымі вачыма стаяў, пакуль абое не зніклі.

У Далеўскіх, з улікам акалічнасцяў, справа ішла добра, а было б яшчэ лепш, каб не іхняя натура спачування, якая клікала: давай, давай, не клапоцячыся пра тое, ці дадзенае будзе калі вернута.

Не тут канец радасці ў нядолі. Домік Далеўскіх стаўся цэнтрам духоўнага жыцця для выгнанцаў. Тут збіраліся, вучыліся, радзіліся, чыталі. Тыя, хто ўмеў болей, дзяліліся сваімі ведамі з менш адукаванымі. Бывалі рэфераты, лекцыі па прыродзе, гісторыі і літаратуры. А колькі ж там было людзей не проста здольных, а годных заняць універсітэцкія кафедры. Многія з маладых людзей, якія перарвалі свае навучальныя курсы, тут не толькі, што не занядбалі, але яшчэ расшырылі абсяг сваіх ведаў і падрыхтаваліся да здачы экзаменаў.

У тым ужо лепшая доля ссыльных за эмігрантаў. На Сібіры няшчасце яднала людзей розных становішчаў і здольнасцяў. Падтрымлівалі адзін аднаго. У эміграцыі распарушваліся і часта гінулі для краю.

З якім узрушэннем роўна як інтэлігентныя, так і простыя людзі ўслухваліся ў чытаныя ўголас лісцікі, напісаныя не раз рукой не адпачыўшай ад гэбліка або молата. Тыя простыя словы былі ў стане ўзрушыць іх болей, чым творы лірычныя або паэмы геніяльных пісьменнікаў. Лісты да ссыльных праходзілі праз кантроль спецыяльнай камісіі. Новапрыбылым была забаронена ўсялякая карэспандэнцыя.

Праз цэлыя дзевяць доўгіх гадоў мы атрымалі толькі адзін лісцік, напісаны іх рукой, з іхнім уласным подпісам (які стрэпаны і пажоўклы хаваю па сённяшні дзень), высланы з дарогі - з Казані.

Ад тога часу мы камунікавалі вельмі рэдка і то праз пасярэдніцтва трэціх асоб, невядомых нам, якія там жылі. Радаваліся і таму, бо даводзілі нашай маці, што яе дарагія сыны, а нашы браты, жывыя, але як іхняе жыццё там складалася не мелі паняцця. Толькі пазней, пасля маніфесту з вуснаў іхніх таварышаў па выгнанні мы даведаліся пра тое, што апісваю.

Далучаю копіі лістоў з Казані.

"1850 года, 9 снежня.

Найлюбімейшая мама! Пасля выслухвання 26 лістапада дэкрэту, які прыгаварыў мяне на 15 гадоў работ у мінах[42], у той жа час пакінуў Вільню і ўчора прыбыў у поўным здароўі ў Казань, праз некалькі гадзін пакідаю гэты горад, ідучы ў далейшую дарогу.

Прашу цябе, найлюбімейшая мама, і вас, дарагія сёстры, калі не пра поўны спакой, то, прынамсі, пра мажлівы ў такім такім становішчы, што да майго лёсу. Памятайце, што на свеце няма такога месца і становішча, дзе было б цалкам добра або цалкам кепска. Бог ёсць усюды, усюды Ён апякуецца над сваімі дзецьмі. Развітваюся з вамі, найлюбімейшая мама і сёстры.

Найадданейшы сын, брат Францішак Далеўскі.

Любімая мама, браты і сёстры!

Пішу з Казані, аддалены ад вас на тысячу з лішнім вёрст[43], шчаслівы, што магу вам паведаміць пра сябе, я здаровы, прытым малады, а таму маю дастаткова сіл, каб перацерпець нягоды.

Развітваюся з вамі, любімая мама, браты і сёстры. Заўтра рушым у далейшае падарожжа. Я асуджаны на 10 гадоў цяжкіх работ. Братнія пажаданні ўсім.

Адданы сын Аляксандр Далеўскі".

"Милостивая государыня!

На письмо Ваше к Г[осподину] Генерал-Губернатору Восточной Сибири от 16 марта т[ого] года, переданного мне Его Высокопревосходительством честь имею уведомить Вас, что сыновья Ваши находятся в Нерчинских горных заводах и как состоящие на работах на основании существующих постановлений писать к родственникам своим не имеют права. Вы же и другие родственники могут к ним адресовать в гор[од] Читу на имя Г[осподина] исправляющего должность военного губернатора Забайкальской области, которым они будут переданы по принадлежности.

С должным уважением и преданностью честь имею быть Вашим, Милостивая государыня, покорным слугою.

К. [Дер]
№ 1610
9 октября 1856
Иркутск
Ее Выс[ок]о Благ[оро]дию
Г[оспо]же Доминике Далевской."[44]

Гэта адзіныя весткі, якія дайшлі да нас. Польскіх газет выгнанцы не атрымоўвалі, а толькі пры пасярэдніцтве прыватных жыхароў - замежныя, якія не выклікалі пярэчанняў. Большасць ссыльных была спрагнёная па вестках са свету. Аляксандр, каб дагадзіць тым, якія не валодалі чужымі мовамі, прывык ім чытаць французскія ці нямецкія, перакладаючы на польскую такім чыстым стылем і ўласцівым падборам выразаў (што ў вуснах ліцвінаў ёсць вялікай асаблівасцю), што слухачы былі перакананыя, што чытае польскую газету і ў першыя дні апавядалі таварышам, хвалячыся, што, аднак, іх можна атрымоўваць. Вялікім было таксама і здзіўленне, калі даведаліся, як выглядаюць рэчы на самай справе.

У вольных хвілі Францішак працаваў над матэматыкай, гісторыяй і палітычнай эканоміяй, як абавязкова патрэбнымі для арыентавання ў будучым жыцці. Аляксандр з вялікім запалам вывучаў інжынерную справу. Вазнякоўскі, паводле апавядання Аляксандра Краеўскага, напісаў вельмі каштоўную працу ў тым кірунку. Паслаў яе ў міністэрства. Як пазней аказалася, вынаходніцтва Вазнякоўскага прыўлашчылі. Паступілі так без цырымоніі з сібіракам. Праца Аляксандра на выгнанні аказалася болей запатрабаванай у краі, калі пасля вяртання атрымаў месца ў французскай кампаніі, якая праводзіла Варшаўска - Пецярбургскую[45] чыг[уначную] лінію. Ён дыплома не меў, таму мусіў адбыць некалькімесячную практыку на найпрацейшых інжынерных работах.

*(Працяг у наступным нумары.)*

---

40 Адзін крок бліжэй і заб'ю! Стой не варушыся!

41 Бацейка родны! Прабач! Прабач! Вінаваты!

42 Міны (з франц.) капальні.

43 Расейская мера даўжыні ў XIX ст. Адна вярста - гэта 1066,8 м.

44 "Міласцівая пані!

На ліст Ваш да п[ана] генерал-губернатара Усходняй Сібіры ад 16 сакавіка т[аго] года, перададзены мне яго экселенцыяй, гонар маю паведаміць Вам, што сыны Вашы знаходзяцца ў Нерчынскіх горных заводах і як тыя, якія знайходзяцца на работах, на падставе існых пастановаў пісаць да сваякоў сваіх не маюць права. Вы ж і іншыя сваякі могуць да іх адрасаваць у гор[ад] Чыту на імя п[ана] выканаўцы абавязкаў ваеннага губернатара Забайкальскай вобласці, якім яны будуць перададзены па прыналежнасці.

З належнай павагай і адданасцю гонар маю быць Вашым, міласцівая пані, пакорным слугою.

К [нечытэльна]
№ 1610
9 кастрычніка 1856
Іркуцк
Вяль[мож]най
п[ані] Дамініцы Далеўскай."

45 Адрэзак Пецярбург-Вільня быў здадзены летам 1860 г.

*Валер Санько*

# Гусі-гусі, будзьце мне сведкамі

*Апавяданне*

*(Заканчэнне.)*

- Якія?

Пры сустрэчы з вяскоўцамі, асабліва з Мартай Захарэвіч, Мікалай Макарэня распытваўся пра росшукі забойцаў фельчара Самусевіча. Пацвердзілася тое ж. Вяскоўцы нічога не забылі, праклінalі гніду-забойцу, і ніхто нічога не ведаў.

**З**акатаваны акрываўлены стары чуў і не чуў боль.

Радуецца, што дзеці бачыцьмуць усход і захад, прозелень травы і дрэў, зжоўцесць восеньскіх палеткаў, чуцьмуць узвіскі і гаману унукаў, вучыцьмуць іх любіць працу і Случчыну, усе разам чакацьмуць весткі Івана Самусевіча з Гэтага і Таго свету.

Кожнае жывое пакідае энергаінфармацыйныя міражы, хронаміражы ў энергаінфармацыйным коле планеты. Асабліва значны след ад здольнага хоць у чым чалавека. Мікалай Макарэня не здагадваўся пра такое. Ён аслупянеў, калі ўбачыў поруч з сабою ў полі Івана Іванавіча Самусевіча. Жывога як жывога.

Памерлы не прамаўляўся, уся істота ўчарнелага вымольвалася - не даруй Новіку, не спашліся на страх, няведанне, нямогласць. Злі занятасць. Зрабі можнае, зрабі. Душа мая просіць тваю душу, франтавік. Прайшоў пяць сталіц Еўропы за пяць гадоў вайны, тваe пасынкі, дачка і сын раздабрачваюцца пра цябе нездарэмна. Не даруй вылюдку Новіку.

"Гусі, гусі, будзьце мне сведкамі! Выкажыце мой боль люду працавіцкаму, усёй Беларусі".

Зрухі душы забітага вычуйвае душа жывога. Дрэннае для забойцы Новіка, дабро для мёртвага Івана Самусевіча. Узгадкі мёртвых, перакусы жывых на Радаўніцу на іх магілах, дзеянні/нядзеянні, вяселлі і хаўтуры, узнагароды жывых, пакаранне вінаватых, помнікі, надпісы на іх - толькі рыскі, ледзь уяўныя кропкі на энергаінфармацыйным коле планеты; іх павінны напісаць кожны, разумна адрысіць на цвёрдасці шкла і плыні сваю лінію. Назаўтра Макарэню ўбачыўся зноў фельчар, наказвае тое ж.

Як пост - час малітваў, ачышчэння, роздумаў, - так не павінна зацягвацца рашэнне на пакаранне вінаватага. Хочаш - захоўвай пост, хочаш - не дзейнічай. Мікалай Макарэня наважыўся.

**М**арце Захарэвіч заступіў дарогу Мікола Макарэня: вядуха, трэба параіцца.

- Трэба, дык трэба.

З Мартай часта рахуюцца апечаныя жыццём людзі з ваколішніх. Сённяшні сумоўнік выказваецца няясна, а хоча, каб яна раскеміла яго нявыказзе:

- Даведайся чалавек пра меркаванае забойства… Намякнуць родным ці не? Яно даўняе.

- Не гадзяцца сузгодні, калі мова пра смерць. Патайнік забойства і яго родныя шмат адпакутуюць, страцяць. - Узіраюцца адзін у аднаго. Яна дадае:

- Лепей у міліцыю, надзейней. Сваяцтва і тары-бары адно час з'ядаюць.

- Нічога не ведаю, здалося з перапою. - Мужчына адвітваецца, мацней узіраецца ў яе. - Дык трэба аблегчыць душу. Хіба мо' трэба.

- Абавязкова. Смерць прыходзіць да замоўшчыкаў і патайнікаў. Да самога, крэўных.

**У**раджэнец суседняй вёскі Працавічы старшы яфрэйтар Мікалай Макарэня вызваляў пяць сталіц еўрапейскіх дзяржаваў - Балгарыі (Сафія), Румыніі (Бухарэст), Югаславіі (Бялград), Венгрыі (Будапешт), Аўстрыі (Вену). Ратаваў Маньчжурыю. Было мноства імгненняў, калі жыццё адважніка вісела на валасіне. Чаго вартыя чатыры штыкавыя атакі, асабліва безвыходная на возеры Балатон.

У паўгаладнай жабрацкай Румыніі ўзбоч дарогі, воддаль, працягнутыя рукі худзеняў-жанчын. Выпрошваюць літасціну. Папрашаяў патрулі адганяюць ад стомленых маршам байцоў, таксама галодных, суткамі бывала без пайкоў, якім здаралася замест баршчу ў бачках і бітонах прывозілі вар, толькі што перакіпелую ваду.

На дзесяціхвілінным прывале адна цыганка падыйдзе да байцоў, памаячыць рукою бліз аднаго галодніка, падыйдзе да другога. Словаў няма, ёсць дрогкая рука, іскрыстыя вочы. Мікалай Макарэня ў працягнутую траскую руку паклаў надламаную скарынку. Цыганка растала, яе няма, ёсць просьба: дазволь пагадаю. Некурэц Макарэня дастае з рэчмяшка кавалак хлеба. "Гэта твае?" - ківок Макарэні на траіх абарванцаў наводдаль, поддадзі. - "Мае, мае".

- Ты, салдацік, вернешся да маткі, два сыны чакаюць цябе, - удзячная за добрадзь цыганка ледзь не бухаецца на калені.

Смяшкі аднапалчанцаў: "Які ты халасцяк, Мыкола, спраўдзіўка праўду кажэ, два сыны чакаюць цябе?"

Расчуленая гадалка ніколі не разлучаецца з картамі, у ваенную пару байца навязваца з гадальствам.

Яфрэйтар Макарэня поркаецца ў бяздонным рэчмяшку, аддае цыганцы некалькі сухароў, апошнюю трацiну хлебнай кулiткі, амерыканскую галету. Некаторыя ўзводаўцы заменьвалі сухары і нават цукар, кусочак амерыканскай галеты на тытунь; могуць галадаць абы наабдымвацца.

- Больш няма. Нічога.

Адыходзіць ад цыганкі баец. Словы падзякі на румынскай і цыганскай мовах уперабіўку з рускімі. Нечаканае цыганскае добраслаўленне для Макарэні стала своеасаблівым паўторам мацярынскага.

Чаму раптам даўнінная добрасць абудзілася сёння, Мікола не разумее.

**Н**е першы раз сінеча аднаго ўзіраецца ў сінечу другой.

- Дакладна ўведалася, шкадаваць неабходна адну праўду. На самога і сваяцтва парша накоціць, страта за стратаю.

Дваімі нічога болей канкрэтнага не выказалася, проста паўсміхаліся. Тым не меней запэўніванні адной надалі мужнасці другому. Абывацель, мешчанін і насельніцтва ў пастаці Міколы Макарэні прарaслі ў новую іпастась. Насельніцтва становіцца народам, калі яго сыноў пачынае тычыцца агульная падзея, калі здарэнне, якой малой важнасці не было, ахоплівае многія душы.

Не выдаў мэту сустрэчы хлебароб, упэўненасці ў рашальным кроку сустрэча з лекаркаю і вядункаю яму надала. Даўняя сустрэча з румынскаю дабрачнаю паўгалоднаю цыганкаю сёння стаяла ўваччу. Сілаю набытых іскраў жанчына ратавала ад галадухі ўласных дзяцей, а яе цыганскі корань каго ратаваў? Гнюсіў чыю веру?

Праз паўмесяца пасля нечаканага забойства ў Працавічах Івана Самусевіча дзве цыганскія сям'і ў сярэдзіне лета ўмітусь зняліся з прыстойнай сялянскай працы, дыхтоўнага жылля. Куды выедуць, ніхто ў вёсцы не ўведаў, ад'язджанцы садзіліся ў параконныя кібіткі, ні з кім не мовіліся.

Ніхто не звязваў сённяшнюю маласлоўную сустрэчу двух вачастых дружбацкіх людзей з летнім раптоўным выездам з вёскі двух цыганскіх сем'яў.

Жыццё навучае нас, старых, а мы навучаем моладзь. Да скону. Чаму ж мы навучым свой падрост, чаму.

**А**нтон Новік прыходзіў да Івана Бурака патрапаціца. Жаліўся, учора моцна паддаў, разбалелася галава, боўталася рознае. Што ён там плёў пра яблыні, гусей і кветкі?

- Нічога.

Таксама п'яны Бурак нічога не запамятаў. Па-ўглядваўся цыган, пайшоў.

Злачынцы утойваюць месца і час злачынства. Найболей здатныя з іх маскіруюцца адмыслова. Аднак ёсць межы абаронства. Марта Захарэвіч параіла Мікалаю Макарэню выказаць падазрэнні міліцэйскім.

У слуцкай міліцыі тупых было мала. Пісьмовай заявы пра нябесныя выгукі гусей і выгалас цыгана ніхто ні ў каго не прасіў.

**П**раз дзень са Слуцка да вулічных электрычных слупоў вёскі і ў хаты прыехалі электрыкі. У раёне правяралі няўдала пракладзеную электраправодку. Састарэлая, самаўзгараецца. Пажылым, асабліва пенсіянерам, давалі транспарт на паездку ў раённыя электрасеткі. З канцавых хатаў забралі гаспадароў, безадмоўна ўсіх утрамбавалі ў аўтобусік. Пакуль будзеце ў раёне вазіцца з выпіскаю новай праводкі, безаплатнай, у вёсцы заадно праверaць праводку ў хатах, сенцах.

Справа не запаволілася. За пару гадзін электрыкі справіліся. К таму часу гаспадароў усіх трох хат прытарабанілі ў Ігрaва.

Антон Новік з вясковай абачнасцю перамяўляўся з гаспадыняй - чамусьці напаўшэптам, потым увокрадзь, далей з прывычнай для вяскоўцаў галоснасцю.

Не падабаецца яму слуцкі выклік, ой як не падабаецца. Пад вечар разуздыхалася і Тацціяна Новік.

І ёй немаведама што здавалася. Да суседзяў электрыкі ўсяго двойчы спатыкаліся. Правяралі праводку, мянялі лямпачкі.

Позна ўвечары Тацціяне Новік зарупілася: ці надзейна схаваныя нож і абцугі. Пра надзею не сумнявайся, запэўніваў жанчыну муж.

- Трэба перахаваць схрон у якую яму.

Апоўначы Антон Новік доўга пахаджваў на панадворку.

- Доўга калупаўса, - шэпатам пракаментавала яго позны ўзварот у хату гаспадыня. Двое доўга не вымавілі ні слова. - Надзейней усё-такі.

- Надзейней не надзейней, адстань, - прабурчэў Антон. - Лепей за ракіту ніхто не ўкрые.

Разгалісты куст ніцай прырэчнай ракіты ўдзень і ўночы даваў прытулак птушкам і рыбам. Яго абрывісты бераг любілі рыбакі, асабліва маладыя вудзільшчыкі.

**- П**рызнавайся. Меней упаяюць, - адразу параілі дастаўленаму ў следчы аддзел Антону Новіку.

Справядлівыя апраўданні Антона для першага і другога слуцкага следчых былі гарохам аб сценку.

- Чаму цыганскія сем'і наскокна і раптоўна з'ехалі з дабротнай працы ў Працавічах?

- Не ведаю, не ведаю. Куды з'ехалі, ні сказалі.

Праз гадзіну ў міліцыю ўвальваюцца двое з гідракасцюмамі, ажыўленыя.

Антона Новіка прыводзяць да следчых у міліцэйскай форме і цывільнай.

- Пішы, выказвайся шчыра, напоўніцу. Мо' ад расстрэлу зберажэшся.

Збялелы Антон Новік кемасны чалавек. Паўторна разглядаў леташнія здымкі акалечанага Івана Самусевіча, а галоўнае - убачыў уласны нож і абцугі, зусім непаржавелыя.

- Гусі ўсё-такі вычулі стогны старога Івана Самусевіча. У паднябессі пачулі. Праз год. - Раздумвае. - Мы тупейшыя за птушак.

Другі следчы хмура дапісвае распачатую старонку, забожкаўся:

- Не веры́ў у прыкметы і сілу нябесную, мусіў паверыць з-за такіх, як ты!

**П**ра нечаканыя сёлетнія аварыі на трасе Мінск - Брэст, калі загінулі дзве цыганскія сям'і, Антон Новік не чакаў паведамлення. Ён ведаў, чыё крэўства загінула - хто, за што, за чые правіны.

Пісьмы асуджанага на палітасціванне ад Антона Новіка ішлі ва ўсе юрыдычныя ўстановы СССР. Іх сіла і вымогныя крыкі не маглі перасіліць калектыўныя і прыватныя скаргі слуцакоў, якія ўвідавочна бачылі сляды жудасных невыносных пакутаў дабрака, ціхмянца і працавіціка Івана Іванавіча Самусевіча.

Савецкая шматкроць асуджаная юрыспрудэнцыя рэдка давала збоі, не шкадавала асуджаных за махінацыі загадчыкаў магазінаў, выключныя выпадкі зверства ў вёсках, за разбоі на вуліцах. Так і сталася з Антонам Новікам.

Праз год весткі ад асуджанага Новіка нікому не прыйшлі.

*1967, 2018.*

# "Шлях Альгерда"

**20** чэрвеня 2018 года ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў "Палац мастацтва" адкрыта выстава "Шлях Альгерда". Яна прысвечана бліскучай перамозе войск Вялікага Княства Літоўскага пад кіраў-ніцтвам Вялікага князя Альгерда над татарамі ў бітве на Сіняй Вадзе восенню 1362 года. Адкрыў выставу старшыня Беларускага Саюза мастакоў Рыгор Сітніца. Выстава стала спалучэннем розных мастацкіх жанраў. Прадстаўлены карціны Міколы Купавы, Міхася Басалыгі, Аляксея Пшонкі, Юрася Каралевіча і Ягора Батальёнка, выцінанка Ніны Сакаловай-Кубай, габелены Марыны Грудзінавай і Ніны Пілюзінай, медалі Аляксандра Зіменкі, фота і фотарэпрадукцыі Міколы Лінніка, фота Міколы Купавы, Аксаны Спрынчан і Георгія Ліхтаровіча, рэканструкцыя зброі рыцарскага клуба "Белы ліс". Удзельнікі выставы мастацкімі сродкамі паспрабавалі паказаць шлях Альгерда ад Вільні да Сіняй Вады - рэчкі Снівады - у Вінніцкай вобласці на тэрыторыі Украіны. На выставе можна убачыць партрэты вялікіх князёў Альгерда і Кейстута, іх брата Любарта, узбраенне літоўскіх і татарскіх вояроў, беларускія і ўкраінскія шляхі, рэчку Снівада, поле бітвы, знакамітую "Пагоню", абраз Божай маці Вострабрамскай, прывезены Альгердам пасля перамогі, храмы Вільні і Віцебска, збудаваныя ў XIV ст. у гонар перамогі, помнікі Альгерду ў Віцебску, у гонар 650-годдзя перамогі ў мястэчку Уланаў Вінніцкай вобласці, Фёдару Карыятавічу ў Мукачаве.





**Т**эма бітвы на Сіняй Вадзе асвятляецца творцамі Беларусі, і кожныя пяць гадоў вынікі іх працы дэманструюцца ў "Палацы мастацтва" і ў іншых выставачных залах.

***Мікола Лінік,***
*сябар Саюза журналістаў Беларусі.*





# Народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік" адзначыў сваё 30-годдзе!

*Юбілейная дата адкрыта,*
*Гады птушкай ляцяць,*
*не дагнаць,*
*Але ж нам усяго толькі 30,*
*Дык не будзем,*
*сябры, сумаваць!*

**21** чэрвеня ў Палацы культуры горада Ліды сабраліся сапраўдныя аматары народнай музыкі і песні, прыхільнікі творчасці вядомага ў Гарадзенскай вобласці і за яе межамі народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік", які адзначыў свой 30-гадовы творчы юбілей.

**П**ачыналася ўсё 32 гады таму назад, калі ў Гудскі сельскі клуб на пасаду загадчыка прыйшоў працаваць малады таленавіты хлопец - Андрэй Колышка. На адным з мерапрыемстваў, у час выступлення мясцовага хору, удзельнік мастацкай самадзейнасці зайграў на гармоніку полечку, ды так! што гледачы ледзьве ў скокі не пусціліся... Вось тады ў Андрэя Колышкі з'явілася і запала ў душу ідэя стварэння калектыву народнай музыкі. У складзе ансамбля тады былі тры гармонікі і барабан. Пазней дадаліся кантрабас і дудка, затым скрыпка і цымбалы. На працягу 30-ці гадоў у калектыў прыходзілі творчыя людзі, і кожны аддаваў ансамблю сваё натхненне і талент. Сёння ў складзе калектыву - Андрэй Колышка (кіраўнік, гармонік), Іван Кароль (гармонік), Аляксандр Пучыла (кантрабас), Марыя Дукі (цымбалы), Ганна Ліпская (скрыпка), Алена Кавальчук (дуда), Алена Мілеўская (барабан). Выдатным вакалам радуюць слухачоў салісты ансамбля - Лілея Хваініцкая, Наталля Вайцюкевіч, Вольга Троцкая, Алеся Яруновічава, Кацярына Каспорская і Дзмітрый Пухнарэвіч.

**С**учасны калектыў, як і раней, мае сваё індывідуальнае аблічча, непаўторную манеру выканання і рэпертуар, які ў асноўным складаюць беларускія, польскія, рускія народныя песні і мелодыі, а таксама апрацаваныя творы, запісаныя ад старэйшых жыхароў Лідскага раёна ў час фальклорных экпедыцый.

**А**дметна, што частку рэпертуару "Гудскага гармоніка" складаюць аўтарскія творы Андрэя Колышкі на словы экс-салісткі Ганны Баборык і творы, напісаныя ўдзельнікам ансамбля - Аляксандрам Пучылам на ўласныя вершы і вершы лідскага паэта Станіслава Судніка.

**Н**ародны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік" на высокім прафесійным узроўні прадстаўляе беларускае музычнае і песеннае мастацтва як у нашай краіне, так і за яе межамі. За гады існавання калектыў даў больш за шэсцьсот канцэртаў. "Гудскі гармонік" - удзельнік і неаднаразовы пераможца рэспубліканскіх, абласных і раённых святаў, фестываляў і конкурсаў. З 2007 года звесткі пра ансамбль "Гудскі гармонік" уключаны ў Энцыклапедыю беларускага фальклору, а ў 2017 годзе - у энцыклапедычны даведнік "Беларускія народныя музычныя інструменты".





**Н**а святочным юбілейным канцэрце гучалі віншаванні і падзякі ў адрас кіраўніка і ўдзельнікаў "Гудскага гармоніка". Усе яны розныя па характары, па ўзросце, розныя па прафесіі, але аб'ядноўвае іх самае галоўнае - любоў да песні і зямлі беларускай.



**З**а гады свайго існавання "Гудскі гармонік" набыў шмат сяброў. Каб павіншаваць і павіншаваць гэты выдатны калектыў, на свята прыйшлі народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў "Мы з вёскі-калыскі" Бердаўскага цэнтра культуры і вольнага часу, народны вакальны ансамбль "Святліца" Дзітвянскага Дома культуры, народны ансамбль песні і танца "Лідчанка" Палаца культуры г. Ліды. Святочныя пажаданні прагучалі ад прадстаўнікоў школ мастацтваў і іншых устаноў культуры аддзела культуры Лідскага райвыканкама.





**З** нагоды 30-годдзя творчай дзейнасці народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік" узнагароджаны Граматай упраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкама. Падзячным пісьмом старшыні Лідскага раённага Савета дыпутатаў узнагароджваны ўдзельнік народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік" - Аляксандр Пучыла, Ганаровай граматай Лідскага райвыканкама - Андрэй Колышка (кіраўнік калектыву), Падзячным пісьмом старшыні Лідскага райвыканкама - Ганна Ліпская, Граматай аддзела культуры Лідскага райвыканкама - Алена Кавальчук, Дзмітрый Пухнарэвіч. За плённую творчую дзейнасць, высокае прафесійнае майстэрства, прапаганду народных традыцый музычнага мастацтва Падзячным лістом ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" узнагароджаны ўсе ўдзельнікі ансамбля.

**З**а ўвесь двухгадзінны канцэрт прагучалі адна польская і адна руская песні. Увесь астатні рэпертуар, усе віншаванні і вітанні былі на беларускай мове.

**В**іншуем народны ансамбль "Гудскі гармонік" са святам! Дзякуем яго ўдзельнікам за высокае прафесійнае майстэрства і бязмежны энтузіязм. Калектыву жадаем поспехаў і новых творчых дасягненняў. Няхай і далей на радасць усім квітнее народны ансамбль народнай музыкі "Гудскі гармонік"!

*rmcnt-lida.jimdo.com.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўген, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 25.06.2018 г. у 17.00. Замова № 1643.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,03 руб., 3 мес.- 6,09 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.